# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 24 (1674) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 12 ЧЭРВЕНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.



ТАКАЯ МІЛАЯ, І ТАКАЯ ЗАБЫТАЯ... ХАТА Ў СТАРЫМ КОРНІНЕ. Фота У. ЗАВАДСКАГА.

## ЯНЫ ІДУЦЬ З ЭФІРУ...

Ужо 30 гадоў Беластоцкая радыёстанцыя пускае ў эфір перадачы на беларускай мове. Цяпер іх прагна чакаюць і ловяць амаль усе беларусы на Беласточчыне, а песні з гэтай перадачы, нашы беларускія песні, людзі масава запісваюць на касеты.

Ад 1983 г. беларуская радыёперадача ідзе паўгадзіны. Усе гады раней яна была 15-мінутнай. Трэба было доўгай і ўпартай барацьбы за гэтыя 30 мінут. А цяпер найперш слухачы і БГКТ пачалі старацца, каб перадача была гадзінная, або каб былі дзве перадачы паўгадзінныя ў тыдзень. Ці ўдасца?

(Працяг на стар. 6)




ІНТЭРВ'Ю ДАЕ САКРАТ ЯНОВІЧ

## КРАЯВІДЫ З-ПАД ВОЗА

*— Пачыналі Вы ад празаічных мініяцюр. Шмат-якія з іх сваёю формай нагадваюць паэтычныя замалёўкі. Ці не рупіла Вам да вершаў?*

— Рупіла! Няпраўда, што пачынаў я ад прозы. Спачатку „вершаплёціў". У сваё літаратурнае дзяцінства. Перш папольску. Школа ж польская. Ад маці зацікавіўся Пушкіным і Лермантавым. Узяўся тады „сцішкаваць" па-руску. Мы не палякі, казаў бацька. У Крынках маіх.

Пайшоў вучыцца ў Беласток. Усю ноч ішоў. У горадзе ўпаткаў кніжкі Коласа, Купалы. Стаў беларусам. Пасыпаліся з мяне беларускія вершы. Нарэшце! Беласток даў свядомасць роднай мовы. Горад, не вёска. Вышэйшая асвечанасць. І... чужасць польскай псіхікі.

Верш апублікаваў адзін. „Успамін" называецца. Гэта ў „Ніве", пад канец лета пяцьдзесят сёмага. Памятаю, як я пісаў яго. У эпілепсійнай меланхоліі. У ваўкавыйным смутку. У нейкай манастырскай роспачы. Быў ён маім апошнім. Болей не прабаваў. Не ўмею. І не хачу ўмець. Рыфма перашкаджае мне думаць. Гаварыць найпатрэбнае. Нялішнімі словамі. Без падшукоўвання іх дзеля штучнай вымогі. Зрэшты, у мяне няма слыху. А вершы — гэта музыка. Калі яны добрыя.

Думаць і думаць хочацца. Аж да самазабыцця. Яшчэ малога празывалі мяне „старым". Такім і скончуся.

Бывае, зайздрошчу каму здольнасцяў да рыфмоўкі. Гэта лепей слухае публіка. Асабліва, калі малаінтэлігентная.

*— І раптам „Сцяна" — твор з іншага свету. Ці ўсё ранейшае — толькі подступы да гэтай цвярдыні?*

— Не, аніякія подступы! „Сцяну" напісаў я, каб выжыць. У рэдакцыі ўжо не было мне месца. Швэндаўся я з выпадковай на выпадковую работы. Раней за „Сцяну" напісаў „Самасея". Але выдалі пазней.

Хросная маці „Сцяны" — Святлана Крук. Яна — жонка Эрвіна Крука, вядомага пісьменніка.

(Працяг на стар. 4)



## Каб не забывалі

У Падляска-Мазурскай часці ВОП 11 мая адбылася цікавая сустрэча афіцэраў-пагранічнікаў, прадстаўнікоў Ваяводскага праўлення ЗБоВіД і Прэзідыума камісіі братэрства па зброі Ваяводскага праўлення ТППР з госцьмі з Гродна: старшынёй абласнога Савета ветэранаў вайны і працы Міхаілам Сасноўскім, старшынёй Ленінскага раённага савета горада Гродна — Яўгенам Чубараевым і старшынёй Савета ветэранаў вайны і працы Гродзенскай ніттачнай фабрыкі Іванам Глухавым.

На самым пачатку госці наведалі залу традыцыі Падляска-Мазурскай брыгады ВОП. Аб гісторыі часці расказаў капітан Яўген Грыгаровіч.

Затым пры чаі пайшла размова, запачаткаваная падпалкоўнікам Вітальдам Сацэвічам, аб ваенных гадах, аб змаганнях з гітлераўскімі захопнікамі.

Страшна сабе ўявіць, які быў бы лёс чалавецтва, калі б не перамагла Савецкая Армія, каб не выстаяў і не перамог савецкі народ.

На Нюрнбергскім працэсе перад усім светам была раскрыта зверская сутнасць фашызму. Адзін з яго завадатараў Кейтэль пацвердзіў, што ўсё насельніцтва акупіраваных краін павінна было стаць рабамі, а тыя, хто не захацеў бы прыняць „новы парадак", былі б асуджаны на смерць. Вось што чакала цэлыя народы, калі б фашызм не быў разгромлены.

Дарагой цаной дасталася перамога. 20 млн. савецкіх і 6 млн. польскіх людзей страціла жыццё. У Савецкай Беларусі загінуў кожны чацверты жыхар. Разбураны былі гарады і вёскі, прадпрыемствы і ўстановы. Фашыстамі было знішчана разам з людзьмі 637 вёсак.

Пра гэта нельга забыць. Вось таму неабходна, каб памяць аб тых, хто не вярнуўся з вайны, асталася ў сэрцах нашчадкаў. Трэба рабіць усё, каб нашыя нашчадкі ведалі, наколькі мы абавязаны тым, хто аддаў жыццё за нас, за тое, каб мы сёння жылі. Але як гэта рабіць, як выхоўваць падрастаючае пакаленне ў духу пашаны і памяці аб удзельніках вайны, як і якую дапамогу трэба аказваць тым, хто вярнуўся з вайны жывым? Амаль ва ўсіх іх моцна падарванае здароўе.

Вось такая была галоўная тэматыка супольнай размовы гродзенскіх ветэранаў вайны і працы з нашымі ЗБоВіД-аўцамі і ТППР-аўцамі.

(мх)



## СВЯТА Ў ВЁСЦЫ

У Літвінавічах (гміна Нурэц-станцыя) заўжды ўрачыста адзначаюць Святадухаўскі дзень, па-народнаму Тройцу. Гэта ў іх прыхадское свята.

З гэтай нагоды мясцовыя дзеячы БГКТ і Аб'яднанага людовага старонніцтва традыцыйна наладжвалі і народны фэст. Шмат разоў даводзілася мне прымаць удзел у гэтым фэсце. Ён заўсёды выклікаў вялікае зацікаўленне ў жыхароў Літвінавічаў і суседніх вёсак.

Навокал прасторнай зялёнай пляцоўкі, у цяньку старых ліп і клёнаў, прыемна пасядзець на лавачках, калі няма патрэбы спяшацца ў поле, і пагутарыць з суседзямі і знаёмымі, чакаючы, пакуль на эстрадзе не паявяцца самадзейнікі.

На гэты дзень са школ, устаноў і прадпрыемстваў вяртаецца ў вёску тутэйшая моладзь. Ёсць нагода, каб аднавіць знаёмствы, а пасля мастацкай часткі і патанцаваць на траве да позняга вечара. А заўтра — зноў у вырай, у горад.

Шкада, што сёлета такі фэст не быў наладжаны, але з мінулага года ў нас захаваліся здымкі.

**Фотарэпартаж В. Рудчыка**





## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Odpowiadając na notatkę prasową zamieszczoną w Tygodniku Białoruskim „Niwa" w numerze z dnia 21 lutego br. pt. „Nie nawuka a muka" poruszającą likwidację Szkoły Podstawowej w Kuchmach, gm. Michałowo, Kuratorium Oświaty i Wychowania w Białymstoku po przeprowadzeniu postępowania wyjaśniającego informuje:

W roku szkolnym 1975/76 obniżono poziom organizacyjny 8-klasowej Szkoły Podstawowej w Kuchmach do klas I—IV w związku z dokonywaną reformą strukturalną szkolnictwa oraz małą liczbą dzieci. W roku szkolnym 1979/80 ze względu na dalszy spadek liczby dzieci całkowicie zlikwidowano szkołę w Kuchmach, a dzieci z tego rejonu skierowano do Szkoły Podstawowej w Michałowie. Na początku lat 80-tych w związku z odstąpieniem od reformy strukturalnej szkolnictwa w szeregu miejscowościach, w których mieszkańcy postulowali i była odpowiednia liczba dzieci w wieku obowiązku szkolnego reaktywowano szkoły bądź podwyższono ich poziomy organizacyjne. Z miejscowości Kuchmy takiej prośby Kuratorium Oświaty i Wychowania nie miało. Wiązało się to najprawdopodobniej z małą liczbą dzieci. Postulat autora notatki dot. reaktywowania szkoły w Kuchmach aktualnie nie może być załatwiony pozytywnie ze względu na bardzo małą liczbę dzieci w wieku obowiązku szkolnego oraz brak budynku szkolnego. Wyjaśnia się, że do utworzenia szkoły z klasami I—III zgodnie z obowiązującymi przepisami potrzeba co najmniej 21 dzieci (7 w każdym oddziale), zaś szkoły z kl. I—IV — 54, a I—VIII — 104 dzieci.

Rozporządzenie Ministra Oświaty i Wychowania z dnia 19 sierpnia 1987 r. w sprawie zasad tworzenia sieci szkolnej (Dz. U nr 26, poz. 143) zezwala tylko w wyjątkowych wypadkach tworzenie szkół z mniejszą liczbą dzieci tj. z klasami I—III poniżej 20 uczniów, nie mniej jednak niż 10 i z klasami I—VIII przy liczbie uczniów nie mniejszej niż 56. Liczba dzieci zamieszkałych w Kuchmach nie spełnia warunków na utworzenie szkoły tego typu. W br. szkolnym z tej miejscowości do klas I—VIII uczęszcza 19 dzieci, w tym do kl. I — 2, kl. II — 4, kl. III — 0, kl. IV — 4, kl. V — 3, kl. VI — 1, kl. VII — 4, kl. VIII — 4. Dwoje dzieci do oddziału zerowego w przedszkolu. Wszystkie dzieci są dowożone do szkoły w Michałowie.

W przypadku reaktywowania szkoły w Kuchmach, jak postuluje autor notatki, uczyłoby się w niej:

| Rok szkolny | Klasa | | | | razem |
|---|---|---|---|---|---|
| | „0" | I | II | III | 0-I-III |
| 1988/89 | 6 | 2 | 2 | 4 | 10 |
| 1989/90 | 1 | 6 | 2 | 2 | 10 |
| 1990/91 | 4 | 1 | 6 | 2 | 8 |
| 1991/92 | 1 | 4 | 1 | 6 | 11 |
| 1992/93 | 3 | 1 | 4 | 1 | 6 |

Jak wynika z powyższych danych liczbowych nie ma podstaw prawnych do utworzenia szkoły w Kuchmach.

Wicekurator Oświaty i Wychowania
**mgr Zbigniew Kamionowski**

**ПОМНІКІ КУЛЬТУРЫ**

# КАПЛІЦА НА „ПЕТРАШКАХ“



На паўночны захад ад вёскі Рыбалы, адзін кіламетр ад дарогі на вёску Рэпнікі, ва ўрочышчы Петрашкі ёсць крынічка, над якой стаіць каплічка. Як падае царкоўны летапіс, збудавана была яна ў 1864 г. па дазволу духоўных улад, прыхаджанамі. Драўляная, шасцівугольная, у сярэдзіне калодзеж, абгароджана драўляным плотам. У каплічцы ікона Багародзіцы „Жываносны Історнік“, малявання на блясе, а ўверсе, на столі, над калодзежам абраз Св. Духа ў выглядзе голуба.

У 1926 г. па ініцыятыве настаяцеля Яўхіма Ляшчынскага на месцы вельмі старой будоўлі паставілі новую. Царкоўка збудавана на плане крыжа. У 1948 г. прыхаджанін Пётр Лукашук, сын Юрыя з Рыбалаў, на свае сродкі правёў у сярэдзіне ля калодзежа рамонт. Меліярацыя ў 80-ыя гады, праведзеная на блізкіх лугах, панізіла ўзровень вады ў калодзежы. Аднак месца надалей застаецца шанаваным.

Служба тут, як і даўней, праходзіць два разы ў год — на Прапалавенне Пяцідзесятніцы і 1 (14) жніўня — пачатак Спасаўкі.

Ад I сусветнай вайны гэтыя дні ў прыходзе не святкуюцца, таму і свянчэнне вады ў каплічцы на Петрашках перанесена на нядзелю Самаранкі і першую нядзелю пасля Макавеяў. Да другой вайны былі арганізаваны тут працэсіі са службай. Цяпер царкоўка-крынічка задбаная. У апошні час яе нанава пamalявалі і накрылі новай бляхай. Народ шануе гэтае месца.

**Тэкст і фота Р. С.**



**Мал. Юркі Федарука.**

ларусь“. Я яе спецыяльна напісаў на польскай мове. На беларускай — яна была б незаўважанай грамадствам. Вось тут і ўвесь адказ Вам.

Гістарычную памяць у народзе можна адбудаваць. Публікацыямі, навучаннем у школе, настроямі. Але мову, калі мы сваю страцім, ніпто яе не ажывіць. Не ўваскрэсіць да жывых. Такая ўжо яе прырода. Не бяспамяцтва беззваротны працэс. Усё больш беларускіх патрыётаў без беларускага слова. Беларускую літаратуру і культуру наогул яны засвойваюць з рускіх ці польскіх перакладаў. Часта ўжо і не перакладаў. Штораз больш і больш пішуць на беларускай.

Давайце прадумаем такі працяг: нацыянальнае пачуццё бярэцца з пачуцця ўласнай годнасці. З жадання жыць за непазычанае. Мець сваю душу. Значыць, мову. Адзеннем душы завуць яе. Няхай. Дык і сляпы ўжо бачыць, што галеем. Хутка Адамам і Еваю паробімся. А наш клімат не райскі... Аж не верыцца, што ўсё да гэтага галяцтва ідзе! Праўда ёсць праўдаю. І напляваць ёй на нашы тут перажыванні.

Аптыміст супыняе мяне: чаго скавычаш?! Асоба без свайго „я“ — гэта не асоба. Народ без уласнага „я“ — таксама — не народ. Гавораць пад Саколкаю па-беларуску. Ага, вазьмі і паедзь да іх, скажы, што беларусы яны... Ногі пагубіш, уцякаючы! Або скажы ірландцу, што ён ангелец, бо англійскую мову ўзялі сабе на адзенне. Эфект тваёй рэплікі будзе мардабойны. Не мова нацыю будуе, але Памяць.

А я, Яновіч, лічу так: усяму суддзя эканоміка. Калі б была ім мараль, жылі б мы ў сёмым небе... Не адбылася б ампутацыя беларускага да „дзярэўні“. Перавага вёскі скончылася. Адначасна з феадалізмам. Запаноўвае горад. Вынік нам? Пануючая ў сялянстве беларуская гаворка пераўтвараецца ў гарадскую меншасць. З дамінуючай у перыферыйную ў новай гаспадарчай сітуацыі. Горад жа ў нашым староні здаўна іншародны. І ніколі не загаворыць па-беларуску. Будзе, нават, разумець нашу мову. Але не болей. Пачынаецца зусім **непадобнае да ранейшага існаванне беларускай нацыі.** Менавіта, як нацыянальнай меншасці ўсюды. Татальна!

Таму гістарычная памяць важней ёй за мову. Хоць і родную. А з гэтым не беззваротна, як Вы дапытваецеся ў мяне. Парадоксу не бачу. Логіка мая адчувае сябе добра. Толькі сэрца ўсё баліць і баліць.

— *Да якой нацыянальнай стыхіі належыць творчасць „белавежцаў“?*

— Вы што: жартуеце? Пытаецце, колькі будзе два разы два? Калі ж усур'ёз: „белавежцы“ з'яўляюцца здабыткам беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

У Мінску мы „пахнем па-польску“. У Варшаве — наадварот. Ну, дык куды нам падзецца? У Беластоку. Толькі ў Беластоку. Надзя Артымовіч нават у Бельску ўселася. Барскі са Шведам у Варшаве. Спачуваю ім двум. Паязджане яны на лініі Варшава — Беласток. Варочаюцца ў Варшаву як бы паначаваць...

Можна разважаць пра сутнасць беларускай меншасці нашае. Пра тое, колькі ў ёй ужо небеларускага. Але пра гэта Вы не пытаецце. І дзякуй Богу!

Інтэрв'ю ўзяў
**Г. Валкавыцкі**
Фота К. Сабэцкага

# ПРАЙШЛО 1000 ГАДОЎ

# КАБ АДСТАЯЦЬ

**Працягваем нашы пытанні да а. Рыгора Сасны, настаяцеля Рыбалаўскага прыхода.**

**„Ніва“:** Напор уніі быў моцны, а ўсё ж такі праваслаўе нялёгка адступала. Як праходзіла сужыццё гэтых двух веравызнанняў?

**Р. С.:** Не ўсе прыходы і манастыры ў епархіях, епіскапы якіх прызналі ўлады рымскага папы, адразу і ў цэласці сталіся уніяцкімі, напрыклад, Сямяцічы і Гродзіск толькі ў 1614 годзе (унія — 1596), а манастыр у Супраслі ў 1621 годзе перайшлі на унію. Праходзілі дзесяткі гадоў, а ніводная епархія не была поўнасцю уніяцкая.

На Беласточчыне апорай праваслаўя праз усе гады існавання уніі заставаліся тры манастыры: у Бельску, Драгічыне і Заблудаве. Многія прыходы і манастыры да уніі былі далучаны ў XVII ст.

Унія паставіла праваслаўе ў горшую сітуацыю — яно не мела характару веравызнання, юрыдычна прызнанага, і фармальна дзяржавай не прызнавалася. Як помнім, польскі кароль лічыў, што унія поўнасцю замяніла праваслаўе — і справа закрыта.

Праваслаўе аднак не адступала. На сеймах I паловы XVII ст. кароль быў вымушаны прызнаць некаторыя правы праваслаўнай царкве, хоць унія не перастала насаджвацца, а ліквідацыя праваслаўя прадаўжалася. Унія давяла польскую дзяржаву да войнаў са Швецыяй, Турцыяй і Масквой, таксама да спораў і міжусобных непаладкаў.

Крыху палягчэла пры каралі Уладзіславе IV, які нават вярнуў праваслаўным у некаторых гарадах па адной царкве, раней забраных для уніі. Для прыкладу, як прадстаўлялася сітуацыя на нашых землях. У 1791 г. у Драгічыне былі два праваслаўныя прыходы: св. Тройцы — 116 верных і Спаса — 64 верныя. Іншых дадзеных не маем.

На аснове дагавораў з 1698 і 1775 гадоў праваслаўная царква ў польскай дзяржаве была далучана да Расійскай царквы. У выніку разбораў да Расіі перайшла значная частка былых зямель польскай дзяржавы. Слуцк і Пінск былі першымі цэнтрамі праваслаўя з епіскапамі, вызначанымі рускім кіеўскім мітрапалітам. Пасвячэнне на пасад епіскапаў гэтых зрабіў канстантынопальскі патрыярх, а ахвяры на адраджэння праваслаўныя епархіі збіраліся між іншым у архімандрыях і ігуменіях бельскай, драгічынскай, заблудаўскай і яблачынскай. **(вв)**



 

# ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА КОНКУРСАЎ...

(Працяг са стар. 4)

чуццём любові да роднай мовы, шчыра дзяліліся сваім успрыманнем літаратурнай творчасці. Прымалі ўдзел не толькі для месца і ўзнагарод, а таксама, каб праверыць свае здольнасці і магчымасці ў мастацкім чытанні. Дэкламатары спрыялі адзін другому, падтрымоўвалі і дапамагалі. У перапынках абменьваліся сваімі перажываннямі і ўражаннямі з выступлення іншых. Віншавалі з найцікавейшымі выступленнямі шчыра і аб'ектыўна. Супольна спявалі беларускія песні, калі чакалі аб'яўлення вынікаў конкурсу. Думаю, што сама моладзь добра разумее характар такіх мерапрыемстваў на культурнай беларускай ніве. Ад яе можна навучыцца ўспрыймання сэнсу конкурсу.

**Ян Мордань**

## ЧАРОЎНАЯ РЭЧАНЬКА...

Тым, каму пашчаслівілася быць выканаўцамі, а таксама і тым, якім удалося купіць білеты на цэнтральны агляд „Беларуская песня 1988“, доўга цяпер будзе гучаць у вушах музыка роднага краю. Музыка непаўторная, каханая, проста нашая, якая, як чароўная рэчанька плыла з глыбіні сэрцаў беларускіх. Уражанняў шмат, хвілінамі не верылася, што наша беларуская культура такая багатая. Радавалася душа, сэрца напаўнялася гордасцю за свой народ, цэлай сутнасцю хацелася падзякаваць продкам за ўсё багацце народнай творчасці Хацелася таксама выказаць удзячнасць і цяперашнім кампазітарам, якія і ў далейшым узбагачаюць нашу народную культуру новымі кампазіцыямі. Такім чынам, дзякуй Вам, дарагі Дзімітр з Гайнаўкі, Язэп Карпюк з Сямяціч, Ірыней Лаўрашук з Гданьска, Сяргей Лукашук з Бельска і іншым за гэта. На аглядзе цяжка было далічыцца колькасці песняў, захапляла разнастайнасць жанру, мелодыка, цудоўная падрыхтоўка вакальных калектываў, салістаў, дуэтаў, квартэтаў і інструменталістаў. Сем гадзін, праведзеных у беластоцкай філармоніі з беларускай песняй, прабегла, як некалькі хвілін.

Аднак не толькі сваімі ўражаннямі хачу падзяліцца з Вамі, дарагія чытачы. Мне хочацца некалькі слоў напісаць яшчэ пра новую, на маю думку, сітуацыю ў адносінах палякаў да нашай песні і да нас, беларусаў.

Якраз многія з нас мелі магчымасць паслухаць, з якімі прамовамі выступалі полька з Сілезіі і старшыня журы сёлетняга агляду Ежы Сьрудкоўскі з Музычнай школы ў Беластоку, а таксама вядомы музык з Варшавы Мар'ян Даманскі.

Высняю, што пасля агляду, калі журы праводзіла бурлівую нараду, раптам на сцэне паявілася полька Ірэна Півавар ро-

(Працяг на стар. 7)

# ЯНЫ ІДУЦЬ З ЭФІРУ...

(Працяг са стар. 1)

Больш бойка і больш уаргументавана за гэта павінна выступаць Галоўнае праўленне БГКТ, а таксама і слухачы. Людзі гавораць, што кіраўніцтва нашай беларускай арганізацыі ўдзельнічае ў розных высокіх грамадска-палітычных органах, напрыклад, Нацыянальнай радзе культуры, ПРОН. кансультацыйных радах і павінна гэты факт умець выкарыстаць.

З нагоды 30-годдзя беларускіх радыёперадач у Беластоку, хочам прыпомніць і пагаварыць крыху аб іх. Мэта гэтай публікацыі, між іншым, і тая, каб пераканаць нас саміх, беларусаў, у велізарным грамадскім і культурным значэнні радыёперадач на беларускай мове ў Польшчы, каб пераканаць у неабходнасці павялічыць іх час на антэне. Беларуская ж перадача гэта адна з самых папулярных, калі не найбольш папулярнай у праграме Беластоцкага радыёвяшчання.

Гісторыя „Беларускага магазіна“ пачалася ў палове чэрвеня 1958 года і першым рэдактарам быў Мацей Канапацкі. працавіты даследчык беларускай літаратуры, аб чым многа і адкрыта пісаў у „Ніве“. Праз два гады эстафету пераняў Лявон Майсеюк з Белавежы. Ён рабіў перадачы 9 гадоў. Потым былі Станіслаў Пазнанскі, выпускнік аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Віктар Рудчык, які найдаўжэй рыхтаваў перадачы, бо 10 гадоў, і цяпер вось ужо 4 гады перадачы робіць Уладзімір Праховіч, таксама выпускнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, родам з Бельска.

Недзе 10 гадоў таму нехта з нястомных, неспакойных карэспандэнтаў „Нівы“ ў адной сваёй публікацыі паставіў пытанне: якімі павінны быць беларускія радыёперадачы? Адразу разгарнулася бурлівая дыскусія. (У той час у „Ніве“ праходзіла многа цікавых і вартасных дыскусій: якія мы людзі, цалаваць ці не цалаваць, чаму я пішу ў „Ніву“). У дыскусіі аб беларускіх перадачах паявіліся два рэкордныя пастулаты. Першы, што перадача павінна быць даўжэйшай, і другі, што ў ёй трэба даваць больш нашых песень. У выніку дыскусіі тадышні рэдактар Віктар Рудчык адразу ўлічыў другі пастулат — зменшыў колькасць тэксту, а пачаў даваць больш песень. Якраз беларускія песні адразу і раптоўна павялічылі зацікаўленне перадачай ва ўсіх асяроддзях. Яе пачалі слухаць і палякі. Песня наша родная чарговы раз паказала сваю сілу. Яна і цяпер, пры Валодзіку Праховічу — гвоздзь праграмы. Валодзік увёў песні па заяўках, песні з пажаданнямі. Ён і сам не спадзяваўся, што гэта выкліча такую хвалю сімпатыі да перадач.

— Раней, — кажа Валодзік



Уладзімір Праховіч з неаллучным мікрафонам.

## ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

Летам 1941 года Данцы Шумінскай споўнілася 13 год. Ірка Ханеўская была на год малодшая. За імі заставаўся бестурботны адпачынак у піянерскім лагеры ў Друскеніках і тыдзень трывожнага вандравання ў цвёрдых вагонах цягніка, які з невялікімі перапынкамі імчаўся ды імчаўся на ўсход.

— У Маскве, памятаю, — кажа пані Данута, — пачаставалі нас малаком. І тады гэты звычайны, прывычны белы напітак смакаваў мне, як ніколі болей у жыцці.

29 чэрвеня 1941 года дзеці апынуліся ў горадзе Уфа, на падмостках Урала, там, дзе зліваюцца дзве вялізныя і бурлівыя рэкі: Белая і Уфа. Найперш іх накіравалі ў нейкі піянерскі лагер. Практычна беручы, нічога ў іх жыцці не змянілася. Цэлая арганізацыя кожнага дня амаль нічым не адрознівалася ад таго парадку, з якім ужо яны звыкліся ў Друскеніках. Фіззарадка, туалет, снеданне, заняткі, абед... і гэтак далей. Адным словам, яшчэ адзін месяц бестурботных канікулаў.

— 28 ліпеня, — расказвае Данута Шумінская, як заўсёды вельмі дакладная ў сваіх паказаннях, — нас вярнулі ў горад Уфа і пасялілі ў дзіцячым доме № 5. Калідор даўжэзны, цёмны, зала вялізная, здаецца, на 30 чалавек, жалезныя ложкі пад сценамі... У вачах дзяцей паявіліся слёзы. Захацелася дамоў, да мамы і таты.




Апякункі загадалі размяшчацца па ложках. Тады нейкая дзяўчынка не стрымалася, заплакала ўголас, а за ёю паследаралі іншыя дзеці.

— Гэта была проста нейкая істэрыя, — кажа Ірына Ханеўская-Томчык.

— Ніхто не мог нас супакоіць, — дабаўляе Данута Шумінская-Рашкевіч. — Выхавацельніцы нашы найперш нас прасілі, каб мы супакоіліся, пасля крычалі, злаваліся, пачалі трэсці нас за плечы. А мы яшчэ галасней: „Дамоў! Да мамы! Дамоў! Да мамы!“ І плач, і віск...

Прадаўжалася гэта так доўга, пакуль яны не стаміліся і не стала сіл плакаць, а нервы адпусцілі...

Гэты своеасаблівы бунт не застаўся без паслядоўнасці. Магчыма, на далейшы лёс дзяцей меў таксама нейкі ўплыў круты паварот у міждзяржаўных савецка-польскіх суадносінах. У палавіне жніўня 1941 года прэм'ер-міністр урада Рэчыпаспалітай Уладзіслаў Сікорскі падпісаў у Маскве дагавор аб узаемным супрацоўніцтве ў час вайны супраць супольнага ворага — гітлераўскай Германіі. 25 жніўня дзяцей перавялі ў іншае месца, далекавата ад Уфы.

— Было гэта ў лесе, за ракой Уфа, — успамінае Данка Шумінская. — Прыгожае месца...

— Але ў карчах знаходзілі мы там многа гіпсавых павязак ад паломаных рук і ног, — адзначыла яе сяброўка Ірына.

— Так, гэта праўда, — пацвердзіла Данута Шумінская. — Відаць, раней знаходзіўся там



 

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

14

## II. ХАРАКТАРЫСТЫКА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ МОВЫ.

### 4. Паўднёва-заходні дыялект беларускай мовы.

Паўднёва-заходні дыялект беларускай мовы на поўначы мяжуе з сярэднебеларускімі гаворкамі, на захадзе пашыраецца за межы БССР на ПНР, дзе мяжуе з гаворкамі польскай мовы і на поўдні, у межах Брэсцкай вобласці — з брэсцка-пінскімі гаворкамі, а далей на ўсход — з гаворкамі Украіны.

Важнейшыя моўныя рысы, якія характэрныя паўднёва-заходнім гаворкам, падзяляюцца на дзве групы: кансерватыўныя рысы і новаўтварэнні. Кансерватыўныя, гэта такія рысы, якія адлюстроўваюць моўныя асаблівасці перыяду ад утварэння паўднёва-заходняга дыялекту ў асаблівасці агульнаўсходнеславянскія, а нават агульнаславянскія. Новаўтварэнні гэта моўныя рысы, якія ўзышлі ў працэсе паўставання дыялекту як яго спецыфічныя асаблівасці.

Да кансерватыўных моўных рыс належыць двухскладовы канчатак творчага склону *-ою, -ею (сцяною, тою, тэю, маладою)*. Уласцівы ён тэрыторыі паўднёва-заходняга беларускага дыялекту, тэрыторыі: паўночных, часткі паўднёва-ўсходніх (сярэдненадднепроўскіх), часткі паўднёва-заходніх (валынскіх) украінскіх гаворак і тэрыторыі брэсцка-пінскіх гаворак. Аднаскладовы канчатак *(-ой, -эй)* з'яўляецца пазнейшай моўнай рысай, новаўтварэннем. Арэал яго ўключае паўночна-ўсходні дыялект беларускай мовы, часткова сярэднебеларускія гаворкі і частку паўднёва-заходніх украінскіх гаворак.

Арэал кансерватыўных канчаткаў меснага склону адзіночнага ліку: *-ом (у чужом), -ам (у жоўтам), -ум (у белум), -ем (у сінем)* у межах Беларусі выходзіць за рамкі паўднёва-заходняга дыялекту. На поўдні, ва ўсходняй частцы, ён працягваецца ва ўкраінскія гаворкі, а на ўсходзе — у гаворкі рускай мовы. Яму супрацьстаўляецца на поўначы арэал паўночна-ўсходні, дзе замацаваўся канчатак *-ым (аб белым)*, а на поўдні, у заходняй частцы — арэал брэсцка-пінскіх гаворак з канчаткам *-ому (аб белому)*.

Прыклады распаўсюджання моўных рыс па-за межамі Беларусі сведчаць аб супольнай гісторыі беларускіх зямель з іншымі землямі, утвараючымі разам з беларускімі адзіны арэал.

Паўднёва-заходні дыялект беларускай мовы ў параўнанні з паўночна-ўсходнім дыялектам і сярэднебеларускімі гаворкамі з'яўляецца больш архаічным: захаваў некаторыя больш старажытныя элементы моўнай структуры папярэдніх перыядаў, чым іншыя дыялекты. Частка кансерватыўных рыс аб'ядноўвае паўднёва-заходні дыялект беларускай мовы з брэсцка-пінскімі гаворкамі і суседнімі ўкраінскімі гаворкамі.

Да XII-XIII ст.ст. паўднёва-заходні і паўночна-ўсходні дыялекты беларускай мовы выразна не супрацьпастаўляліся. Першым штуршком, які прычыніўся да расколу моўнага адзінства і адрознення поўначы ад поўдня было падзенне рэдуцыраваных (ъ, ь).

„Паўднёва-заходні дыялект беларускай мовы, брэсцка-пінскія гаворкі і паўночны (палескі) дыялект украінскай мовы складалі адзіны дыялектны арэал, які вылучаўся большай старажытнасцю суадносных з'яў у параўнанні з іншымі дыялектнымі групамі таго часу.

У больш блізкі да нашага часу перыяд з названага дыялектнага масіву на раду з'яў, якія сталі развівацца ў некалькі іншым напрамку, вылучыўся дыялектны арэал, які ўключае сучасныя брэсцка-пінскія гаворкі на тэрыторыі Беларускай ССР і валынскія гаворкі паўночнага дыялекту ўкраінскай мовы.

З другога боку старажытны дыялектны „беларуска-ўкраінскі" масіў звузіўся на поўначы дзякуючы ўзаемадзеянню са старажытным дыялектным „беларуска-рускім" масівам, у выніку чаго на базе сумежных гаворак аднаго і другога скláліся сярэднебеларускія гаворкі". [1]

[1] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак, пад рэд. Р. І. Аванесава, Мінск 1968, с. 246.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, ёсць у мяне сяброўка, якая жыве ў нашым доме. Мы з ёю раслі ад малога. У гэтым доме пасяліліся мы, калі нам было ўсяго па пяць гадоў. Дык на працягу 30 год я магла назіраць за яе жыццём. Была гэта дзяўчына з так званага добрага дому. Бацька яе быў нейкім дырэктарам вялікага прадпрыемства, маці займалася домам і выхаваннем дачкі. Заўсёды ўсяго яна мела пад дастаткам. І някепска выйшла замуж. Але ж усё яшчэ было мала, дык яе муж паехаў на заробкі ў Амерыку. Мая сяброўка вельмі ўцешылася, калі атрымала з Амерыкі першыя долары. Пачала апранацца, усё купляла для сваіх двух сынкоў. Знайшла сабе хутка кампанію. Найлепшай яе сяброўкай стала адна разведзеная жанчына. Разам яны выходзілі вечарамі, бавіліся, гулялі. Яе дзецьмі апекаваліся бацькі, зрэшты, вельмі добра. Працаваць яна не мусіла, бо грошы прысылаў муж, дык жылося ёй някепска і даволі-такі весела.

Такім чынам знайшла яна сабе іншага. Пачала з ім сустракацца, усюды з ім хадзіць. Муж надалей прысылаў грошы і розныя рэчы ёй і дзецям. Але вось недзе праз год муж перастаў прысылаць рэчы ёй. Да мяне дайшлі слухі, што ён даведаўся пра тое, што ў яе нехта завёўся. Перастаў прысылаць ёй рэчы, а пасля і грошы. Мінула яшчэ два гады — і мая сяброўка вырашыла паехаць у Амерыку, аднак муж яе не запрашаў. Неяк знайшла там знаёмых, якія прыслалі ёй запрашэнне, і ўсё ж туды паехала. У Амерыцы перажыла нервовы расстрой: муж яе жыў ужо з іншай жанчынай абсалютна легальна і абсалютна катэгарычна сказаў, што з ёй жыць не будзе. Памог ёй, аднак, знайсці там працу, і яна там працавала паўгода, хочучы зарабіць сабе крыху грошай. Але хутка вярнулася яна, не зарабіўшы занадта многа грошай і не вярнуўшы сабе мужа, якога, пэўна, страціла ўжо назаўсёды. Рабіла, што магла, перажывала, заклінала яго на дзетак, але ён быў упарты і сказаў, што ў Польшчу ўжо не вернецца, а там яна яму непатрэбная. І цяпер вось я так сабе думаю, каб яна была вернай жонкай, каб цярпліва чакала яго, стаўшы на якую працу і выхоўваючы сваіх дзяцей, то можа б ён і вярнуўся, а так вось знайшоў сабе на пацяшэнне іншую жанчыну і засталася яна, мая сяброўка, каля разбітага карыта. Ды й наогул я так думаю, навошта ім была тая Амерыка? Яны ж Амерыку ў Польшчы мелі...

**Галіна**

Галіна! Думаю, што справа маецца крыху інакш, прынамсі, што датычыць першай часткі твайго пытання. Думаю, што проста задоўга ён ужо быў асобна, гэты яе муж, і проста перастаў кахаць жонку. Знайшоў сабе тады іншую. Калі б кахаў і даведаўся, што ў жонкі паявіўся нехта іншы, то на крылах прыляцеў бы з той Амерыкі, кінуўшы ўсё: і той рай, і той заробак. З кахання людзі так лёгка не рэзыгнуюць.

Што датычыцца другой часткі пытання, дык і мяне здзіўляе, чаго людзі туды так пруцца. Колькі разбітых сямей застаецца пасля такіх паездак?! Колькі няшчасных, хаця багатых дзяцей?! Хоць цяжка жыць без грошай, але сапраўднае шчасце яны рэдка калі даюць...

**Сэрцайка**

# З ЛІТОЎСКАЙ КУХНІ

## ЦЯЛЯЦІНА „ГІНТАРАС"

На 20 дэкаў цяляціны трэба ўзяць 30 дэкаў саланіны, 2 зубкі часнаку, 2 чайныя лыжачкі лімоннага соку, соль, перац па смаку.

Памытую цяляціну парэзаць на скрылёчкі, крыху збіць іх, пасаліць і пасыпаць перцам, нацерці часнаком, спырснуць лімонным сокам і пакінуць на 4-5 гадзін. Саланіну нарэзаць вялікімі кавалкамі. Загарнуць іх у збітыя кавалкі цяляціны, накалоўшы на шпагі для шашлыкоў. і запякаць. Страва падаецца з марынаванай гароднінай (цыбулькай, часнаком, памідорамі), а асобна падаюць соус з маянезу і хрэну.

## ЦЯЛЯЧАЯ ПЯЧОНКА ТУШАНАЯ

На 1/2 кг цялячай пячонкі трэба ўзяць 1 літр малака, 1 лыжку тлушчу, 5 дэкаў саланіны, 2 лыжкі мукі, 6 зярнят ядлоўца, 10 дэкаў пятрушкі ці сэлера, 1 цыбулю, 1 моркву, перац, соль, 1 шклянку булёну ці вады, паўшклянкі смятаны.

Зняўшы плёнку з пячонкі, мачыць яе 2 гадзіны ў малацэ. Выняўшы, парэзаць на скрылёчкі таўшчыні каля 1 см, заліць кіпячым малаком. Калі пячонка збялее, асушыць яе, памачыць у муцэ і падсмажыць на гарачым тлушчы.

Цыбулю, моркву, пятрушку ababраць, спаласнуць, нарэзаць, палажыць у каструлю, заліць булёнам ці вадой, дадаць зярняты ядлоўца, пасаліць, варыць. Калі гародніна будзе мяккая, палажыць у яе падсмажаную пячонку і тушыць разам. Тады запраўіць страву засмажкай з мукі і саланіны, а ў канцы тушэння дадаць смятану і яшчэ крыху падагрэць.

Пячонку падаваць з бульбяным пюрэ і марынаванымі фруктамі (яблыкі, слівы, грушы) або з павідлам з брусніц.

## ЦЯЛЯЦІНА З ГАРОДНІНАЙ

На 1 кг цяляціны трэба ўзяць 2 лыжкі тлушчу, 1 цыбулю, 8 бульбін, 3 морквы, 2 пятрушкі, 1 шклянку варанай фасолі, лыжку мукі, перац, соль, булён паўшклянкі смятаны.

Памытую цяляціну нарэзаць упоперак валокнаў, збіць яе і падсмажыць на тлушчы (у часе смажкі пасыпаць перцам, соллю і мукою). Тады мяса зласжыць у каструльку, заліць булёнам і тушыць на слабым агні. Гародніну (цыбулю, бульбу, моркву, пятрушку) абабраць, памыць, нарэзаць, падсмажыць на тлушчы і дадаць да мяса. У канцы дадаць вараную фасолю (можа быць зялёны гарошак ці калафёр) і смятану.

**Гаспадыня**

# СОННІК

128

**Ягня** рэзаць — міласэрнасць; заблуканае — набожная жонка або добры муж; ягнят мець — спакой і пацяшэнне; спіць або пасецца — вясёлыя думкі; насіць яго — дабрабыт і шчасце; бачыць скачучае — радасць ад дзяцей; шукаць — задавальненне.

**Ядловец** — выздараўленне з працяглай хваробы; цвітучы — шчаслівае каханне.

**Яешню** пячы — здароўе і задавальненне.

**Язда** — здзяйсненне надзеі; некалькімі коньмі — вялікае багацце; цягніком — хрысціны або вяселле; возам, які цягнуць людзі — сілаю здабудзеш сабе прызнанне і пашану; калясом — пераможаш ворагаў.

**Яздок** — дойдзеш да вялікай пашаны; сыходзячы з сядла — страта прыяцеля; падаючы — невялікая страта.

**Язмін** — прыезд дарагой асобы.

**Язык** — невялікія пакуты; апухшы — хвароба сваяка; доўгі — турботы; паказаць каму-небудзь — благія звычкі.

**Языкі** есці — вызваленне з турбот.

**Яйкі** купляць — мець страты: атрымаць — даход; варыць — абмова, паклёп; птушыныя — блаславенне; птушыныя есці — засмучанне; бачыць іх — калатня; выбіраць з гнязда — выйдзеш за ўдаўца або ажэнішся з удавою; сапсаваныя — перашкоды; каляровыя — бязвінная гульня; пабіць — непрыемнасці.

**Якар** (катвіца) — паратунак у небяспецы.

**Ялаўка** — добрая жонка.

**Яліна** — удачы ў намерах; купляць дрэва — прыемны візіт; шышкі — неспадзяванае шчасце.

**Яма** ўпасці ў яе — няўдачы, прыкрасці; бачыць — у час пазбяжыш небяспекі; капаць — наробіш даўгоў.

**Ярмо** — цяжкая праца.

**Канец**

Апрацаваў **Мікола Гайдук**

**P.S. Рэдакцыя просіць прабачэння ў чытачоў за тое, што паспяшалася і прапусціла перадапошнюю старонку тэксту, якую падаем у сённяшнім нумары.**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ВЕСТКІ СА ШКОЛЫ У КЛЯШЧЭЛЯХ

Калі ў мінулым годзе на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня '87" для школьнікаў на сцэну выйшла група маленькіх дзеўчанятак і, прытанцоўваючы, заспявала народную песню „Лянок", зала заўсміхалася. Вельмі ж сімпатычныя былі маленькія танцоры. З таго часу і стаў вядомы ў Кляшчэлях дзіцячы калектыў „Лянок", які ад першага танца і прыняў сабе гэту назву.

Напярэдадні сёлетняга агляду я наведала школу ў Кляшчэлях і трапіла проста на рэпетыцыю „Лянка". Дзяўчаткі цяпер ужо другога і трэцяга класаў, 8 чалавек, пад наглядам настаўніцы Яўгеніі Такаюк шліфавалі новыя песні да сёлетняга конкурсу. Калектыў працуе рэгулярна два разы ў тыдзень. Апрача таго, усе дзяўчаткі вывучаюць беларускую мову тры разы ў тыдзень.

У час нашай размовы дзеці расказвалі, што яны спяваюць не толькі на конкурсах. Выступаюць на ўсіх школьных урачыстасцях. Не так даўно, на 1 Мая, школьнікі давалі канцэрт на плошчы ў Кляшчэлях. Выступілі з першамайскім мантажом, які рыхтавала з дзецьмі настаўніца Еля Ліпінская, а потым спявалі песні і дэкламавалі вершы. Тады ж беларускую песню „Бярозы" спявала шасцікласніца Ася Барташэвіч, а „Купалінку" — чацвертакласніца Агнешка Камінская. Разам яны заспявалі яшчэ песню „Цячэ вада ў ярок", якая вельмі падабаецца ўсім у Кляшчэлях.

Памагае школе ў развіцці мастацкай самадзейнасці гмінны асяродак культуры. Ад яго калектыў „Лянок" атрымаў прыгожыя ўборы, а інструктар ГОКу Віктар Леанкевіч, музыкант, працуе з калектывам. Дзяўчаткі вельмі любяць свой



*Школьны калектыў „Лянок" з дырэктарам школы Міхасём Майстровічам.*

калектыў. Ахвотных спяваць заўсёды ёсць многа.

Беларускай мове вучацца дзеці ў Кляшчэлях ва ўсіх класах. У II і VI класах з дзецьмі па беларускай мове працуе настаўніца Валянціна Рошчанка, а ў 4,5 і 7 класах — Валянціна Майстровіч. Настаўніца Яўгенія Такаюк вядзе беларускую мову ў трэцім класе.

Вучыцца беларускай мове дзяцей нямала, але магло б вучыцца значна больш. Цяпер сярод старэйшых вучняў у Кляшчэлях пайшла мода на англійскую мову. Ахвотных яе вывучаць ёсць столькі, што арганізатары не могуць прыняць усіх ахвотных.

— Хочам разумець дыскатэкавую музыку, разумець словы, якія спяваюць там пераважна па-англійску, — паяснілі мне дзяўчаткі-шасцікласніцы.

Добрая, вельмі добрая ахвота вывучаць мовы, пазнаваць праз гэта вялікі і чароўны свет, яго мову і культуру. Ды і наогул цудоўна, калі наша грамадства будзе ведаць больш замежных моваў, ці хоць бы тыя найважнейшыя, найбольш папулярныя ў свеце. Бяда толькі ў тым, каб не адракаліся ад роднай мовы, сваёй матчынай. Бо ніколі не зможа назваць сябе культурным чалавек, які не ведае роднай мовы, калі застаўся недавучаным, занядбаў сваё роднае і стаў нікім.

Маю надзею, што ў школе ў Кляшчэлях родная мова будзе і далей займаць пачэснае месца, а беларускія песні і вершы будуць гучаць на школьных урачыстасцях. Тым больш, што ў малодшых класах вучыцца беларускай мове значна больш дзяцей, чым у старэйшых.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Шасцікласнікі, якія вывучаюць беларускую мову.*

**Беларускі пісьменнік Станіслаў Шушкевіч прыслаў у „Зорку" сваю новую кніжку „Апавяданні пра Марата Казея". У кніжцы расказваецца пра бясстрашныя подзвігі хлапчука — партызанскага разведчыка, Марата Казея ў гады Вялікай Айчыннай Вайны.**

**Сардэчна дзякуем Аўтару за кніжку і друкуем першае з апавяданняў.**

## АДПОМСЦІМ ЗА СМЕРЦЬ МАЦІ

У канцы верасня прайшлі спорныя цёплыя дажджы, а ў пачатку кастрычніка па-летняму праяснілася неба над вёскаю Станькава. Зямля падыхнула такою цеплынёю, што маладыя і старыя забыліся пра абутак, хадзілі босыя і цешыліся ласкавым надвор'ем. Ды толькі калі шмыгалі вуліцаю салдаты з фашысцкага гарнізона, рабілася прыкра і горка, усё напаміналі, што нашу зямлю топчуць акупанты.

Марат Казей амаль усю ноч не спаў, маці вечарам паліла печ, пякла хлеб, а цёплым досвіткам пайшла разам з параненым салдатам у лес, панесла партызанам хлеб і сухары, ячменныя крупы і соль. Такія паходы былі не першыя, маці не адзін раз наведвала партызанскі лагер, насіла лясным салдатам прадукты і перадавала весткі пра навакольныя падзеі. Марат раніцою выпусціў з куратніка курэй, прынёс з калодзежа вядро вады, падпаліў дровы ў пліце і паставіў чайнік. Сястрычка Арыядна, старэйшая за яго больш як на чатыры гады, таксама ўзялася за хатнюю работу: вымыла пасуду, вынесла і павесіла на частаколіны збаночкі і слоікі, памыла падлогу, а пасля пачала латаць Маратаву куртку. Марат збіраўся схадзіць на рэчку Усу, парыбачыць, але паставіў вудачкі зноў на старое месца ў сенцах, пайшоў у парк. Каля старой, былой графскай альтанкі ён убачыў натоўп хлапчукоў. Кульгавы афіцэр з гарнізона, якому ўжо ўсе станькаўцы далі мянушку „недабіты Шульц", загадаў прынесці школьную класную дошку. Яе паставілі каля альтанкі і падперлі штыкецінамі. Шульц прымацаваў да дошкі папяровую мішэнь, на якой друкарскім спосабам быў адціснуты савецкі салдат з зоркаю на будзёнаўцы і чорным кружочкам на левай частцы грудзей. Шульц адышоў на метраў пятнаццаць ад мішэні і пачаў цэліцца ў грудзі салдата. Пістоны ў некаторых патронах былі адсырэлыя, стрэлы не адбываліся, і фашыст са злосцю выкідаў патроны, якія давалі асечку, і зноў цэліўся ў чорны кружок — сэрца. Некаторыя кулі пралятালі міма, некаторыя кранальі пляччук, некаторыя пападалі ў рука-

(Працяг на стар. 10)

(Працяг са стар. 9)

# АДПОМСЦІМ ЗА СМЕРЦЬ МАЦІ

во, але не ў грудзі. Шульц падышоў бліжэй і папаў у чорны кружок. Фашыст аж падскочыў ад радасці і крыкнуў на ўвесь голас:

— Бальшавіку капут! Капут!..

Шульц пакульгаў у гарнізон. Марат сабраў патроны, якія далі асечку, пустыя гільзы і пабег дадому. Хлопчык радаваўся гэтым цацкам, праглядаў уважліва кожны патрон, з аднаго нават высыпаў на далонь порах і дома спаліў у пліце.

Арыядна крыкнула на брацiка:

— Усю хату засмуродзіў!

Марат расчыніў вокны і пабег у сад.

Арыядна падрыхтавала абед і паклікала праз адчыненае акно брата. Бачок умывальніка Марат нядаўна напоўніў свежай вадою і пачаў з прыемнасцю мыцца. На вуліцы ён пачуў галасы суседзяў.

— Хата Ганны Казей, вось гэта, з расчыненымі вокнамі. А яе самой няма дома! Пэўна, у полі бульбу дакопвае.

Стукнулі веснічкі, і ў двор увайшлі два карнікі з нашыўкамі на рукавах, на якіх ярка выдзяляліся белыя чарапы, а пад імі перакрыжаваныя дзве косткі. Такія ж эмблемы карнікі мелі і на шапках. Зайшоўшы ў хату, карнікі распачалі вобыск. Адзін з іх прарэзліва крыкнуў:

— Паказвайце, дзе ляжыць зброя! Дзе вінтоўкі? Дзе гранаты?

Арыядна маўчала, і вочы яе былі поўныя слёз. Маўчаў і Марат. Фашыст узяў хлопчыка за каўнер і загадаў паказваць, чым напакаваныя яго кішэні. Марат паклаў на стол пустыя гільзы і патроны з кулямі. Фашыст ударыў Марата па твары і выкрыкнуў:

— Дзе ўзяў гэтыя патроны? Хто і дзе страляў?

Марат праз слёзы запалоханым голасам сказаў:

— Пан афіцэр Шульц страляў у мішэнь і выкінуў.

Карнік штурхнуў хлопчыка і спытаў:

— А ў каго ты збіраўся страляць, партызанскі сынок? Дзе твой тата?

— Мой тата памёр! А мама пайшла на працу. А гэтыя патроны не страляюць!

Фашысты параскідалі вопратку, перапрыбушылі пасцелі, сарвалі са сцяны адрыўны каляндар. Схапілі з палічкі школьныя падручнікі і ўкінулі іх у пліту. Неўзабаве яны загарэліся. Карнікі выйшлі з хаты.

Праз некалькі хвілін на вуліцы пачуўся шум і крык:

— Ганну Казей вядуць! За што ее арыштавалі?

З вёскі Ляхаўшчына прыбыла з арыштаванымі людзьмі аўтамашына. У яе зганялі і арыштаваных станькаўскіх людзей. Калі гналі вуліцай Ганну Казей, яна паспела крыкнуць:

— Дзетачкі мае родныя! Можа, ужо ніколі не ўбачымся!

Фашыст-канваір з усяе сілы штурхнуў маці ў плечы. З рук Ганны Казей выпаў кош з грыбамі. Аднакласнік і аднагодак Арыядны падняў гэты кош, занёс у Казеевых хату і коратка сказаў:

— Арыядна і Марат, вам трэба ісці ў партызанскі атрад, там вас прымуць... Калі ж застанецеся дома, прыедуць фашысты і арыштуюць.

Пасля арышту маці Марат і Арыядна некалькі сутак не начавалі ў сваёй хаце.

Праз некалькі дзён на сценах дамоў з'явілася абвестка Мінскага палявога каменданта аб тым, што расстраляны пяцьдзесят асоб, якія дапамагалі партызанам, перадавалі зброю і прадукты харчавання.

Сярод расстраляных была і Ганна Казей. Арыядна, даведаўшыся пра смерць маці, пабегла ў хату. Хлопчык са слязамі на вачах абняў сястрычку і ўскрыкнуў:

— Мы не даруем праклятаму ворагу за смерць маці! За смерць многіх людзей!

Арыядна выцерла хусцінкай вочы і коратка праз слёзы сказала:

— Не даруем, родненькі...

(Працяг будзе.)



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Пішуць да Цябе вучні беларускай мовы з Гданьска. На ўроках у нашым клубе мы чыталі „Ніву" і „Зорку". Бачым, што „Зорка" — цікавая газета для дзяцей. Калі добра навучымся пісаць, будзем пісаць да Цябе часцей.

**Вучні з Гданьска.**

*АД РЭДАКЦЫІ: Дзеці з Гданьска! Напішыце пра сябе больш: колькі вас вучыцца беларускай мове, хто вас вучыць, як вы праводзіце свае ўрокі і што найбольш любіце чытаць у „Зорцы". Вельмі чакаю аб вас пісем.*

**„Зорка"**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Піша Табе вучаніца трэцяга класа школы ў Барысаўцы Дарота Попка. Я люблю беларускую мову. У нас вучыць яе настаўнік Андрэй Ялоза. На ўроках мы чытаем казкі і „Зорку". У „Зорцы" часта бываюць вершы і загадкі. Я вельмі люблю пісаць загадкі. Надумалася я напісаць для „Зоркі" чатыры загадкі.

1. Повен хлявец белых авец. Добра жывецца, лёгка жуецца дружнаму статку. Хто засмяецца — скажу вам адгадку.
2. Зроду ён не есць, не п'е, песні звонкія пяе. І з урока на ўрок ён падасць свой галасок.
3. Сядзіць маладзіца ў цямніцы, каса на вуліцы.
4. Нос доўгі, голас тонкі. Хто яго заб'е, той сваю кроў пральле.

## Вучнёўская творчасць

*Вучні са школы ў Трасцянцы, якія працуюць пад пільным вокам настаўніцы беларускай мовы Галены Тапалянскай, вырашылі прыняць удзел у „Зорчыным конкурсе" пра вясну. Вось іх назіранні.*

* * *

„Калі я іду ў школу, чую розныя спевы птушак. Часта здагадваюся, якія гэта птушкі. Думаю, што найпрыгажэй спявае жаваранак. А як ты думаеш, „Зорка"?

Аднойчы, раніцай я ўбачыла матылька. Ён ляжаў на тратуары. Я яго падняла. Ён быў каляровы. Я спачатку думала, што ён паляціць. А ён меў зламанае крыло. Я паклала яго на траву. Ён хацеў паляцець, махаў адным крылом і дарэмна мучыўся.

Калі мы пасадзілі на агародзе бульбу і збіраліся з сястрой ісці дамоў, пачуўся нейкі шолах. Спачатку я падумала, што гэта курыца. Потым мы ўбачылі маленькага вожыка. Я адразу падбегла да яго і хацела ўзяць на рукі. Але ён калоўся сваімі іголкамі. Сястра таксама ўзяла, але ён і яе пакалоў. Ён спакойна сядзеў на каленях. Бавіліся мы з ім з гадзіну. Хацелі яго выпусціць, але потым падумалі, што спачатку трэба накарміць вожыка малаком. Я прынесла малако. Мы выпусцілі вожыка і паставілі перад ім малако. Мы баяліся, што ён не знойдзе малако. Але памыліліся. Ён такі малы, а які разумны!

**Гражына Франкоўская вуч. 7 класа**

* * *

Пачалася вясна. Ужо прыляцелі ўсе птушкі. Я сама бачыла дзікіх гусей, шпакоў, жаваранкаў, ластавак, жураўлёў і шмат іншых. Таксама расцвілі першыя кветкі ў гародчыку, на палях і ў садзе. Я вельмі люблю кветкі, таму што яны цвітуць рознымі колерамі і вельмі пахнуць. Асабліва я люблю чаромуху і браткі. Ужо зазелянелі сады, палі і агароды. У садзе цвітуць грушы, яблыні, слівы, парэчкі. Людзі закладваюць агароды. Сеюць гародніну і кветкі. Мы ўскапалі зямлю ў нашым школьным агародзе і будзем садзіць агародніну.

Я вельмі люблю вясну. Прыемна бегаць па двары.

**Аня Ігнацюк, 6 клас.**

* * *

Калі я раніцай еду ў школу, бачу зялёны лес. У ім весела спяваюць птушкі. На лугах зелянее трава, на палях — жыта. Прыляцелі ўсе птушкі. Яны цяпер закладваюць гнёзды.

У маім агародчыку таксама відаць вясна. Ужо зацвілі першыя кветкі — жанкілі, нарцызы і чырвоныя цюльпаны. Іншыя кветкі таксама набралі сваёй буйнасці. Хутка будуць цвісці. Дрэвы пакрыліся белым пухам.

Людзі ўжо выйшлі ў поле Яны садзяць бульбу і на сваіх агародах — гародніну.

Па-мойму, вясна — гэта найпрыгажэйшая пара года.

**Агнешка Іванюк, 7 клас**

*Апавяданні іншых дзяцей з Трасцянкі ў наступным нумары.*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Чапаева, 2/2. Пирасовой Инне. 5 клас.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Ландау, 2/3. Нуриева Наталья. 5 клас.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



*Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі: 1 — жоўтым, 2 — аранжавым, 3 — чырвоным, 4 — фіялетавым, 5 — блакітным, 6 — зялёным, 7 — карычневым, 8 — чорным. Што выйшла?*


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка"

З суседскага агародчыка

## ЗДАГАДАЛАСЯ

Івану Іванавічу не пашанцавала яшчэ зрання. Толькі сеў напіцца чаю, каб галава пасвяжэла пасля ўчарашняга, як жонка накінулася: ты гаспадар у хаце ці не гаспадар? Чужым рамантуеш, а дома нічога не бачыш, жывеш, бы кватарант.

Падумаеш, вада цячэ, ракавіна ржавее. Што, у жонкі рук няма, каб вычысціць, ці часу не хапае? Хапае. Гэта ў мяне часу няма. Тэлефон цэлы дзень дрыньдрэнь. Сантэхніка запрашаюць. Ды з якой яшчэ ласкаю!

Надоечы пайшоў да адной. Доўга хадзіў, пакуль усё перарабіў. Недарэмна стараўся... Умеюць жа чужыя і запрасіць, і аддзячыць. А свая — не... Нездагадлівая. Купіла б бутэлечку, мігам бы ўсё падкруціў, памяняў. А то хоча за так...

З такімі думкамі-разваганнямі Іван Іванавіч і прыйшоў на работу. Званкоў не было. Ніхто нікога не залівае, батарэі грэлі. А можа, пайсці дамоў, адрамантаваць тыя краны, каб жонка не бурчэла? Можа раздобрыцца, выцягне тую бутэльку, што болей як год недзе хавае? Запісаўшы ў журнал выклік да сябе на кватэру, падаўся дамоў. Зайшоў на кухню і... аслупянеў. Вада не капала. Кран лёгка адкручваўся і закручваўся. Зроблена было па вышэйшаму класу.

Раптам пачуў голас жонкі, звон шклянак і развагнанні знаёмага сантэхніка аб вадзе, ад якой пайшоў пачатак усіх пачаткаў на зямлі...

Наста Лазебна




# НІЎКА

Прысвячаецца Сакрату Яновічу, аўтару „Сцяны".



### СКАЗАЎ СВОЕЧАСОВА

Іван скардзіцца суседу:

— Твой сабака раніцаю з'еў маю курыцу.

— Вось добра, што ты мяне своечасова папярэдзіў: не буду даваць есці.

### НАВУЧАНЫ

— Чаму ты заўсёды спазняешся! — грыміць жонка на мужа.

— Досыць таго, што я паспяшаўся з табою ажаніцца, — адказвае той.



**— У цябе былі да мяне мужчыны?**

**— Не, клянуся маімі двума сынамі!..**

ГУМАР З БАРАДОЮ

### НЕ ПРАВЯДЗЕШ

— Паненка, калі ласка, дазвольце вас правясці.

— Дудкі, мяне не правядзеш. Досыць мяне ўланы павадзілі.

Лічыў, што ўсё жыццё займаўся цяжкай фізічнай працай — капаў ямы іншым.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

З кітайскіх анекдотаў

Настаўнік заснуў у час заняткаў. Каб адцягнуць увагу свайго падапечнага ад дапушчанага ім граху, ён сказаў яму важна:

— Ува сне я сустрэў былога ваяводу з Джоу.

На другі дзень вучань, ідучы за прыкладам настаўніка, паклаў галаву на парту і таксама заснуў. Убачыўшы гэта, настаўнік даў яму ў карк.

— Ты што гэта спіш сярод белага дня?! — абурыўся настаўнік.

— Я таксама хацеў убачыць знакамітага ваяводу з Джоу! — не разгубіўшыся, адказаў вучань.

— І што сказаў табе ваявода, калі ты з ім сустрэўся? — спытаў настаўнік.

— Ваявода мне сказаў, што ўчора ён вас не бачыў.

*

Пан Ван і пан Ву судзіліся з-за зямлі. Суддзя, які вёў іх справу, быў вядомы сваёй прагнасцю. Каб выйграць справу, Ван падсунуў яму 300 лотаў серабра. Убачыўшы хабар, суддзя паабяцаў Вану стаць на судзе на яго баку, аднак паклапаціўся таксама аб тым, каб аб гэтым даведаўся пан Ву. Той не пашкадаваў грошай і паслаў прагнаму чыноўніку 500 лотаў серабра. Як і трэба было чакаць, Ван прайграў судовы працэс. Здзіўлены гэтым рашэннем, ён падняў руку і паказаў суддзі тры пальцы, каб нагадаць яму аб сваім хабары.

— У мяне ёсць доказы, што я маю рацыю! — усклікнуў ён.

Суддзя тут жа замахаў перад носам усёй пяцярнёй і закрычаў:

— А ў пана Ву доказы большыя!

З „Весніка Задрыпоніі"

**ВОСЬ ШАНЦУЕ!**

Алесь Шанцуновіч чацверты раз запар за апошнія 2 гады выйграў у латарэю аўтамашыну „Лада"... Вядзецца следства.

**АБВЕСТКА**

Незалежны самадзейны прафсаюз „Ачуцінаўка" прадае 30-працэнтныя пуцёўкі ў жыццё.



### ДЗЕ НАВУЧЫЎСЯ?

Вядуць размову ў час абеду
Бацькі пра сына:
— Як з ім быць?
— Такіх п'янтосаў
свет не ведаў...
— Хто навучыў яго так піць?
— Нявесты не шукае нешта...
— І хоць бы людскіх
меў сяброў...
— Ты дапіла сваю ўжо рэшту?
Налі па трэцяй...
— Будзь здароў!

Ігнат Сабчук



# КУРЁЗЫ

### БЕРНАРД ШОУ

Сутнасць мая ў тым, што я унікальны, фантастычны, нетыповы, неперамальны, нязносны, непрымальны ў вялікіх дозах, цалкам непадобны да каго-небудзь з жывучых раней, беззадзейна ненатуральны і абсалютна пазбаўлены ўсякага сапраўднага захаплення.

*

Я надзвычай разумны чалавек. Я, бясспрэчна, пераўзыходжу па таленту сярэдняга прадстаўніка роду чалавечага. Вы смяецеся. Мяркую, не з маіх слоў, а з таго, што я не дакучаю вам звычайным скромным пакашліваннем і не прыкідваюся, што лічу сябе дурным.

*

Ніякага рашучага павароту ў маім лёсе не было. Я ішоў напралом.

*

Сакрэт поспеху ў тым, каб пакрыўдзіць як найбольш людзей.

*

Ніхто мяне не чытае: лічаць класікам і паважаюць, як архіепіскапа.



Правілы для ўсіх аднолькавыя, толькі выключэнні розныя.